

Жыве Беларусь!

# НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№61 (1078) 31 сакавіка 1995 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 558399 экз. Кошт у розніцу — 150 руб.





## Вкратце

***Председатель Госкомимущества России Сергей Беляев сообщил, что доля иностранных инвестиций в приватизированных предприятиях России на первом этапе приватизации составила лишь 10% их акций.***

По его словам, иностранные инвесторы проявляют интерес к предприятиям нефтяной промышленности, цветной и черной металлургии, пищевой и пищеобрабатывающей отраслям, а также к морскому транспорту.

❑

***Более половины (52%) из 868 опрошенных жителей Симферополя высказались против отмены Конституции Крыма.***

Таковы результаты опроса общественного мнения, проведенного на днях Крымским центром социологических исследований.

❑

***Официальные итоги референдума по продлению президентских полномочий главы Узбекистана Ислама Каримова до 2000 года опубликованы вчера в республиканской прессе.***

На вопрос, согласны ли вы продлить срок полномочий президента Узбекистана с 1997 до 2000 года, положительный ответ дали 99,6% участвовавших в голосовании.

❑

***Курс российского рубля по отношению к доллару США на торгах Московской межбанковской валютной биржи 30 марта остался на прежнем уровне по сравнению с торгами в среду и составил 4897 рублей.***

## Нефтепродуктам в Беларуси дорожать и дорожать...

***Одной из причин кризисного положения в нефтеперерабатывающей отрасли Беларуси является нехватка оборотных средств.***

Предприятия нефтепродуктообеспечения поставлены в крайне жесткие условия работы и придавлены налоговым прессом так, что прибыли, получаемой нефтеперерабатывающими заводами и нефтебазами, недостаточно для пополнения собственных оборотных средств и как следствие для приобретения нефти и нефтепродуктов. Кроме того, Кабинет Министров отказал предприятиям нефтеперерабатывающей промышленности в дотациях для пополнения собственных оборотных средств. Это позволяет сделать неутешительный прогноз: несмотря на выделенный Россией 150-миллиардный кредит, темпы роста цен на нефтепродукты в Беларуси в ближайшее время останутся неизменными.

**Александр ШКЛОВСКИЙ.**

## Собираются на Пасху белорусы

***27 апреля в актовом зале филологического факультета БГУ состоится фестиваль фольклорных коллективов Беларуси, приуроченный к самому любимому традиционному празднику белорусов — Пасхе.***

В фестивале примут участие как известные почитателям народной музыки коллективы "Дзіва", "Тутэйшая шляхта", "Дзянніца", "Кола", "Дударыкі", так и самобытные "валачобнікі" из Горок, Дубровно, Вороново, Гродно...

Президент Белорусской ассоциации фольклористов Василий Дмитриевич Литвинко в беседе с корреспондентом РИД сказал: "Такой фестиваль мы проводим уже второй год и сделаем все, чтобы он стал традиционным. Поэтическое слово народа нужно не только сохранять в архивах, но и активно пропагандировать... В этом году при подготовке к фестивалю мы столкнулись с большими экономическими трудностями. Одна надежда — на спонсоров, тех, кому не безразлично благородное дело возрождения Беларуси".

**Евгений КРИЦКИЙ.**

## Не вырезай — убьет!

***На Белорусской железной дороге кражи цветных металлов происходят каждый день, сообщения о таких случаях поступают то с одного, то с другого отделения дороги.***

Так, совсем недавно на 515-м километре железнодорожного перегона Хлюстино—Осиновка был перерублен находящийся под высоким напряжением магистральный кабель, а на перегоне Орша—Витебск вырезано около 7 метров медного кабеля. А вот любителям легкой наживы на участке Молодечно—Вильнюс повезло меньше: при похищении меди воры были задержаны транспортной милицией. Самое время обратиться к психологам и выяснить: как здравомыслящий человек может из-за куска металла подвергать свою жизнь опасности? Ведь сколько уже погибло таких расхитителей, попавших под высокое напряжение во время кражи. Но, видимо, все воры размышляют стандартно: мол, если убьет или поймают, то только не меня.

**Игорь ПЕТРОВСКИЙ.**

## Отвели беду от поезда

***Поджидавшую опасность отвели от пассажирского поезда №52 "Минск—Санкт-Петербург" машинист поезда №623 сообщением Орша—Минск Борис Прусанов и помощник машиниста Виктор Шелейко.***

Увидев наваленные на соседнем пути камни, они немедленно предупредили об этом по радиосвязи своего коллегу и диспетчера станции Новосады. Зная о грозящей опасности, машинист 52-го смог вовремя остановиться и очистить полотно. Преступников, ради забавы готовых пустить под откос пассажирский поезд, усиленно ищет транспортная милиция. Бдительные машинист и его помощник поощрены руководством Белорусской железной дороги.

**Алексей ВОЙТОВ.**


**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Интерфакс, Белинформ, БелаПАН, РИД.**


## В Беларуси избыток российских рублей?

***Национальным банком Республики Беларусь принято решение о предоставлении субъектам хозяйствования возможности оперативного зачисления на счета 50 процентов выручки в российских рублях.***

Эти деньги могут быть использованы по усмотрению их собственников. Перечисление средств будет происходить в день их поступления на транзитный счет в банк.

**Сергей ВЕРАС.**

## Вкладывать "предпочитаем" в жизнь

***Вклады в учреждениях Сберегательного и коммерческих банков страны составили на 1 марта 570,9 миллиарда рублей, что в 13,8 раза выше уровня прошлого года.***

Цены на потребительские товары и услуги в феврале 1995 года по сравнению с февралем 1994 года возросли в 23 раза. Таким образом, в сопоставимых ценах вклады населения на 1 марта текущего года составили 59,8 процента к уровню 1 марта минувшего.

## Швейцарская "почка" белорусу не навредит

***Могилевская областная больница обзавелась двумя новыми аппаратами "искусственная почка" из Швейцарии.***

Применение подобного оборудования не вызывает у больных негативных побочных эффектов в отличие от имеющихся морально устаревших установок отечественного производства.

Несмотря на высокую эффективность швейцарских аппаратов, для области их явно недостаточно. По мнению специалистов, нужно еще как минимум 8—10 единиц.

**Петр ПУШИНСКИЙ.**

## Интеллигенция о независимой прессе

***Белорусский ПЕН-центр на днях принял решение о проведении II Международного конгресса "Независимая пресса: свобода и ответственность".***

Место его проведения пока не определено, установлены лишь даты — 31 августа—4 сентября, а также оговорено, что на конгресс будут приглашены известные писатели, журналисты, представители правоохранительных органов, известные творческие личности из-за рубежа.

Тогда же будут вручены и недавно утвержденные премии имени Алеся Адамовича за лучшие публицистические произведения.

**Александр КАЗАК.**

## Мне звезда упала на ладони

***Очередному брестскому предприятию присуждена европейская награда за качество производимого товара.***

На этот раз — чулочному комбинату, которому в Мадриде будет вручена Золотая Звезда Европейской Арки. К сожалению, звезда не означает полновесного выхода на западный рынок, который давно поделен экспортными квотами Брюссельского комитета ЕЭС.

**Василий ВИКТОРОВИЧ.**





Чорнае крыло Чарнобыля

# Хто такія самасёлы?

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ**

Шмат каго пабачыла чарнобыльская зона — ад ліхіх шапказакідальнікаў да партыйных бонзаў са сваім харчам у лімузінах ды запасным абуткам у цэлафанавых мяшочках.

У свой час Ягор Лігачоў на плошчы ў Брагіне з'еў прынародна яблык. Маўляў, глядзіце — жывы, і вам няма чаго апасацца. А вось Міхаіл Гарбачоў так і не паспытаў паднесены ў Ветцы хлеб-соль, чым выклікаў гаманлівую рэакцыю ў натоўпе: "Баіцца!".

У гэтым сэнсе першы Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які з міністрамі ў сераду, 29 сакавіка, наведаў забруджаныя раёны Гомельшчыны, паводзіў сябе больш натуральна і годна: і хлеб-соль прымаў па-хрысціянску, і чаем з хойніцкімі піражнымі частаваўся ў саўгасе "Стралічава". Але ж, зразумела, не за чаем кіраваўся Прэзідэнт у "зону". Клікалі яго праблемы забруджаных раёнаў, якіх тут шмат і якія без прадуманай дзяржаўнай стратэгіі не вырашыць: у дзяржавы проста няма сродкаў на чарговыя эксперыменты.

Узяць хаця б так званыя чарнобыльскія пасёлкі. Холмеч Рэчыцкага раёна — не горшы з іх. Хутчэй, наадварот. Аднак і тут не ўсё даведзена да ладу. Дырэктар мясцовага саўгаса "Іскра" Васіль Жукаў наракае: "Каб заняць людзей, патрэбны грошы на завяршэнне будаўніцтва кансервавага цэха, сховішча, цэха глыбокай перапрацоўкі ягад і садавіны. Не скончана будаўніцтва пры школе плавальнага басейна, спортпляцовак".

— Звезлі нас у гэты пасёлак, — расказвае Анастасія Шынкарова, — каго з Веткаўскага, каго з Нараўлянскага, Хойніцкага раёнаў. Людзей шмат, а працаваць няма дзе. Сын у мяне без занятку. Як жыць? Як выжыць?

— Паказуху ўстроілі, — дадае суседка. — Прадуктаў у краму навезлі, цяпла пабольш далі ў кватэры. Прэзідэнт прыехаў! Такая вось увага да перасяленцаў.

Тым часам іншыя перасяленцы скардзяцца Прэзідэнту на цяжкасці з атрыманнем чарнобыльскіх пасведчанняў.

Пасля непрацяглай размовы ідзе агляд саўгасных пабудоў, новай участковай бальніцы. І тут дастаецца будаўнікам за недаробкі. Прэзідэнт папярэджвае, што патрабаванні да якасці будуць жорсткія.

У Брагіне жыхары наперабой расказваюць пра дрэнную работу гандлю, хваробы дзяцей, адсутнасць урачоў, настаўнікаў. Сямён Сычоў прыводзіць такія лічбы: месячная кампенсацыя за пражыванне ў райцэнтры складае 6.600 рублёў, а літровы пакет малака Мазырскага гармалзавода каштуе 2.440 рублёў. Вось дык кампенсацыя!

Маладая жанчына крычыць пра няякасныя батоны: "Цвёрдыя, хоць аб сценку бі.

— Вы хочаце, каб Прэзідэнт вазіў вам батоны? — пытаецца Лукашэнка. — Я завалю вас батонамі. Але не пытайце тады мяне пра газаправод. Не хочаце? Тады адрасуйце ўсе дробязі мясцовым кіраўнікам. А мы з міністрам Іванам Кенікам бяромся вырашыць праблемы газіфікацыі Брагіна, рэканструкцыі водаправода, забеспячэння зоны кадрамі ўрачоў і настаўнікаў. Надзвычай эмацыянальная размова з самасёламі адбылася ў вёсцы Савічы таго ж Брагінскага раёна. Пасля адсялення сюды вярнулася 147 чалавек. Большасць з іх — пенсіянеры. Ёсць і працаздольныя. А яшчэ — дзевяць дзяцей: 2 — школьнікі і 7 — дашкалят. Тут, у зоне, за 28 кіламетраў да ЧАЭС! Аднак пра дзяцей самасёлы не ўспамінаюць.

— Колькі нам тут жыць бомжамі?

— Патрэбна баня!

— Дапамажыце з трактарам — няма чым соткі апрацоўваць.

— І з камбайнам — бабулі ўручную жнуць збажыну і малоцяць.

— Нам бы доктара, хоць два разы на тыдзень.

Прэзідэнт запэўніў самасёлаў, што рукі ім ніхто выкручваць не будзе: "Вырашылі — жывіце! Дапамогу акажам".

Міністр аховы здароўя Інэса Драбышэўская ў сваю чаргу пратэстуе супраць пражывання ў Савічах сем'яў з дзецьмі: "Жанчыны, апамятайцеся!" Жанчыны махаюць рукамі — не надта слухаюць.

Праблема самасёлаў узнікла амаль адразу пасля адсялення. Спарадзілі яе стратэгі па эвакуацыі бяздумнымі запэўніваннямі, што вернуцца вяскоўцы да сваіх хат праз тыдзень-другі. Потым цешылі людзей рэвакуацыяй. Жывы прыклад — вёска Гдзень, якую адсялялі, засялялі, затым зноў адсялялі. Нарэшце, само перасяленне з вёсак было хаатычным. Парушалі прывычны ўклад, традыцыі, псіхалагічнае асяроддзе — і атрымалі самасёлаў. Былі і начальніцкія ўгаворы вярнуцца да свайго парога. Спытайце ў першага савіцкага самасёла Паўла Голуба — і ён раскажа!



❑ *Гутарка з жыхарамі вёскі Савічы Брагінскага раёна, якая знаходзіцца ў зоне радыеактыўнага забруджання.*

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА. Белінфарм.**

Зараз жа здзіўляе іншае: чаму дагэтуль не даследаваць стан здароўя самасёлаў, не вызначыць у кожнага дынаміку назапашвання радыенуклідаў і пасля гэтага вызначыць, хто чым рызыкуе? Тады б, пэўна, з'явілася цывілізаванае рашэнне праблемы самасёлаў.

Ставіць чарнобыльская зона і праблему сельскагаспадарчай вытворчасці. У шэрагу чарнобыльскіх гаспадарак, што не развітваюцца з забруджанай радыенуклідамі зямлёй, і саўгас "Стралічава" Хойніцкага раёна, дзе таксама пабываў Прэзідэнт з міністрамі. Саўгас — адладжаная гаспадарка, якую моцна зачапіла чарнобыльскае крыло. Дзевяць вёсак з дванаццаці засталося ў гаспадарцы. Але вытворчасць не спынена. Як да гэтага ставіцца?

У другой палове дня Аляксандр Лукашэнка наведаў Веткаўскі раён. На Чырвонай плошчы райцэнтра адбылася даволі нервовая сустрэча з жыхарамі. Найбольш — на высокіх танах. Шалёныя цэны, малы заробак, мізэрныя пенсіі, нявырашаныя жыллёвыя праблемы падагравалі сітуацыю.

Пэўныя вынікі паездкі былі падведзены на непрацяглай нарадзе з кіраўнікамі раёнаў, спецыялістамі абласных службаў у райвыканкаме. Прэзідэнт адзначыў, што паездка пакладзе канец няпэўнасці ў дачыненні да забруджаных раёнаў: яны будуць жыць, развівацца, каб людзі тут не адчувалі сябе абдзеленымі і нікому не патрэбнымі.

## Паказуха — з'ява жывучая

Учора Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка прысвяціў свой працоўны дзень сустрэчам з жыхарамі чарнобыльскай зоны Магілёўшчыны.

Гутаркі — то сяброўскія, то вострыя, часам рэзкія, адбыліся ў пасёлках Зоры, Майскі Чэрыкаўскага, Ліпаўка Касцюковіцкага раёнаў. Людзі выходзілі на вуліцы, па якіх праязджаў Прэзідэнт. Ён спыняўся, адказваў на шматлікія пытанні.

Жыхароў зоны цікавіла, ці хутка скончыцца рост цэн, чаму з затрымкамі выдаюць зарплату, ці нельга тым, чые гады ўжо далёка не маладыя, заставацца і надалей жыць на сваіх селішчах, не пераязджаючы ў новыя пасёлкі, чаму да прыезду высокага госця тавараў у магазінах стала больш, а цэны на іх раптам паменшалі...

Прэзідэнт тлумачыў, пераконваў, многія пытанні вырашаў на месцы, аддаючы распараджэнні міністрам і прадстаўнікам мясцовай улады, якія яго суправаджалі. І ўвесь час падкрэсліваў: шэраг праблем чарнобыльцам можна і трэба вырашаць самім, не чакаючы ўмяшання зверху. У гэтым А.Р.Лукашэнка знаходзіў падтрымку і разуменне ў сваіх субяседнікаў.

У Касцюковічах Прэзідэнт выступіў перад гараджанамі, старшынямі гар- і райвыканкамаў вобласці. Ён выклаў сваё бачанне шляхоў вырашэння чарнобыльскіх праблем у Беларусі.

**Мікалай ТОЎСЦІК.**

Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Аб датэрміновым спыненні паўнамоцтваў дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Слесара У.М.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

У сувязі з назначэннем дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **Слесара** Уладзіміра Міхайлавіча першым намеснікам старшыні Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта і ў адпаведнасці з артыкулам 92 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь лічыць паўнамоцтвы дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Яромінскай выбарчай акругі №199 Гомельскай вобласці **Слесара** Уладзіміра Міхайлавіча датэрмінова спыненымі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

20 сакавіка 1995 г., г.Мінск. № 3656-XII

## Аб датэрміновым спыненні паўнамоцтваў дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Зарэцкага С.Р.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

У сувязі з назначэннем дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **Зарэцкага** Сцяпана Рыгоравіча старшынёй Чачэрскага раённага выканаўчага камітэта Гомельскай вобласці і ў адпаведнасці з артыкулам 92 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь лічыць паўнамоцтвы дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Чачэрскай выбарчай акругі №235 Гомельскай вобласці **Зарэцкага** Сцяпана Рыгоравіча датэрмінова спыненымі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

20 сакавіка 1995 г., г.Мінск. № 3655-XII

## У ААН святкавалі Дзень Беларусі

***У рамках святкавання 50-годдзя заканчэння другой сусветнай вайны і 50-годдзя Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Пастаяннае прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь пры ААН правяло Дзень Беларусі для пастаянных прадстаўнікоў дзяржаў—членаў ААН.***

У ходзе гэтага свята адбыўся канцэрт з удзелам народнага артыста Беларусі Анатоля Ярмоленкі, а таксама дыпламатычны прыём ад імя прадстаўніка рэспублікі пры ААН.

**Белінфарм.**

## Ветэраны падтрымліваюць Прэзідэнта

***У санаторыі "Белая Русь" па ініцыятыве Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі адбылася сустрэча ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны Беларусі і Расіі. Яе ўдзельнікі прынялі пісьмо да Прэзідэнта Беларусі.***

Ветэраны, звяртаючыся да Аляксандра Лукашэнкі, адзначаюць, што ён "праявіў добрыя, можна сказаць, мудрыя адносіны да гераічнага пакалення брацкіх народаў". Яны адзначаюць, што ў першакласным аздараўленчым санаторыі іх радуюць гаючыя воды, веснавое сонца, спагадлівасць медыцынскіх работнікаў. Але самая вялікая радасць — гэта сустрэчы і гутаркі былых байцоў. З першых трагічных дзён Вялікай Айчыннай і да штурму рэйхстага ў адным страі ішлі да Вялікай Перамогі воіны ўсіх нацыянальнасцей Савецкага Саюза.

Удзельнікі сустрэчы адзначаюць, што "ў гісторыі чалавецтва яшчэ не было такога пакалення, якое ажыццявіла б такія незвычайныя цуды гераізму, творчасці, адвагі і стварэння. Узлёт патрыятызму, дружба нашых народаў вытрымалі вельмі цяжкія выпрабаванні страшэннай вайны".

Ветэраны пішуць, што багаты вопыт Вялікай Перамогі неабходна глыбока, па-новаму асэнсаваць і перадаць усё лепшае моладзі.

У заключэнне свайго пісьма ўдзельнікі сустрэчы ў санаторыі "Белая Русь" канстатуюць, што яны жывуць адной марай — аб'яднаць намаганні дружалюбных народаў для таго, каб наша дзяржава зноў стала багатай і магутнай. "У ажыццяўленні вялікай мэты мы з Вамі. Жадаем Вам, дарагі Аляксандр Рыгоравіч, дабра, здароўя, вялікіх поспехаў у шматграннай дзяржаўнай дзейнасці і чалавечага шчасця".

Па даручэнню ветэранаў Расіі і Беларусі пісьмо падпісалі Героі Савецкага Саюза Д.Пеняzькоў, Р.Дзенісенка, Героі Сацыялістычнай Працы А.Андрэеў, Н.Кудрашова, генерал-маёр у адстаўцы А.Токараў, капітан В.Якаўлеў, ваенная медсястра Л.Зарэцкая, партызанка Л.Самасюк і іншыя.

**Белінфарм.**

## У Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь

Кабінет Міністраў прыняў пастанову аб увядзенні часовых дадатковых ільгот для ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны ў сувязі са святкаваннем 50-годдзя Перамогі. З 1 па 15 мая ўдзельнікам і інвалідам Вялікай Айчыннай вайны, асобам, прыраўнаваным да іх, якія пражываюць у дзяржавах, што ўваходзілі ў склад былога СССР, і прыбываюць для святкавання Дня Перамогі ў Рэспубліку Беларусь, а таксама грамадзянам іншых дзяржаў, якія прыбываюць на ўрачыстасці, на падставе прад'яўлення імі адпаведных дакументаў устаноўленага ўзору прадастаўляюцца наступныя правы. Гэта перш за ўсё — пасяленне ў гасцініцах і гасцінічных комплексах па цэнах, якія дзейнічаюць для грамадзян нашай рэспублікі, а таксама магчымасць бясплатнага праезду ў гарадскім і прыгарадным чыгуначным і аўтамабільным транспарце.

Даручана Міністэрству замежных спраў, Дзяржаўнаму мытнаму камітэту спрацціць візавы рэжым і мытны кантроль для грамадзян, якія прымаюць удзел у святкаванні ў Беларусі 50-годдзя Перамогі і маюць афіцыйныя запрашэнні арганізацыйных камітэтаў.

**Белінфарм.**

## Казахстан не заплаціў Беларусі амаль 3 мільёны долараў

***2 971 201 долар ЗША — іск на такую суму прад'яўляе Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь казахскаму ўраду. Гэта лічба была названа на пасяджэнні калегіі Эканамічнага суда СНД, якое адкрылася ў Мінску 29 сакавіка.***

Тэма судовага разбору — аб неналежным выкананні казахскім бокам пагаднення ад 4 жніўня 1993 года паміж урадамі нашых рэспублік аб пастаўцы збожжа ўраджаю 1993 года і аказанню дапамогі ў яго ўборцы.

Суддзя Анара Кірымбаева, якая выступіла з дакладам, пазнаёміла прысутных з сутнасцю канфлікту. Было паведамлена, што акрамя міжурадавага пагаднення ў ліпені таго ж года Савет Міністраў Беларусі падпісаў таксама пагадненне аб намерах з адміністрацыяй Кустанайскай вобласці. У адпаведнасці з узятымі на сябе абавязацельствамі Беларусь накіравала ў 1993 годзе ў Кустанайскую вобласць 1737 грузавых аўтамабіляў з вадзіцельскім саставам і 1865 механізатараў для работы на камбайнах. Казахскі бок, у сваю чаргу, абавязаўся поўнасцю кампенсаваць расходы па дастаўцы тэхнікі, транспарціроўцы людзей, аплаце камандзіровачных беларускім вадзіцелям і камбайнерам. Прычым гэтыя разлікі павінны былі ажыццявіцца на працягу пяці дзён пасля завяршэння работы. Прадугледжвалася, што праца механізатараў будзе часткова аплачана збожжам. Аднак да цяперашняга часу расходы Беларусі, звязаныя з аказаннем дапамогі Казахстану, ёй не кампенсаваны.

Сутнасць канфлікту ў тым, што праца каля 4 тысяч беларускіх сельскагаспадарчых рабочых, перакінутых у гарачую пару ў Кустанайскую вобласць, так і не была аплачана казахскім бокам. Каб не пакінуць гэтых людзей без капейкі грошай, беларускі ўрад вымушаны быў правесці выплаты з уласных рэсурсаў.

Слуханне справы працягваецца.

**Ларыса ЛАЗАР, Белінфарм.**

Народная Газета

# ЗАМЕЖЖА

*ІТАР-ТАСС*ІНТЭРФАКС*НАРОДНАЯ ГАЗЕТА*

## Пульс дня

### Паведамленне з Карэі

**СЕУЛ.** КНДР прапанавала выбраць расійскі ядзерны рэактар у якасці аднаго з двух рэактараў на лёгкай вадзе, якія павінны быць пастаўлены Паўночнай Карэі ў рамках амерыкана-паўночнакарэйскага пагаднення, падпісанага ў Жэневе 21 кастрычніка 1994 года. Аб гэтым заявілі паўднёвакарэйскія ўрадавыя крыніцы.

### МіГі ляцяць у Малайзію

**СІНГАПУР.** У Малайзію дастаўлены яшчэ два шматцэлевыя знішчальнікі МіГ-29. У красавіку і маі, паведамілі карэспандэнту ІТАР—ТАСС з малайзійскага міністэрства абароны, паступяць 12 баявых машын, у чэрвені — дзве. З чэрвеньскай адпраўкай Расія закончыць пастаўкі самалётаў па пагадненню, падпісанаму ў Куала-Лумпуры ў ліпені мінулага года.

### Акрэслены асноўныя прынцыпы

**АТАВА.** Падпісаннем Дэкларацыі аб прынцыпах узаемаадносін паміж Канадай і Рэспублікай Казахстан, пагаднення аб гандлі паміж дзвюма краінамі, шэрагу пратаколаў па канкрэтных пытаннях двухбаковага супрацоўніцтва завяршылася знаходжанне ў Атаве прэм'ер-міністра Казахстана Акежана Кажэгельдзіна.

### Думка міністра

**ПАРЫЖ.** Расія не будзе доўга супраціўляцца пашырэнню НАТО на Усход. Такую думку выказаў міністр замежных спраў Польшчы Уладзіслаў Барташэўскі ў інтэрв'ю, апублікаваным у парыжскай газеце "Фігаро". "Не думаю, што Расія стане сапраўднай перашкодай на шляху ўступлення краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў НАТО", — мяркуе ён.

### За запазычанасць партнёрам

**ПЕКІН.** "Арышт рэфрыжэратара "Бухта Новік" праведзены цалкам і поўнасцю ў адпаведнасці з кітайскім заканадаўствам і парадкам судаводства", — заявіў карэспандэнту ІТАР—ТАСС прадстаўнік МЗС КНР. Арышт на цеплаход уладзівастоцкага акцыянернага таварыства "Усходтрансфлот" быў накладзены 24 сакавіка ў порце Лункоу. Афіцыйная падстава — запазычанасць партнёрам з КНР.

### Сектанты пайшлі ў падполле

**ТОКІО.** Па меншай меры адзін радыёкіруемы верталёт для распылення з паветра хімічных рэчываў можа знаходзіцца ў распараджэнні пайшоўшых у падполле сектантаў "АУМ Сінрыкіо", якія падазраюцца ў дачыненні да газавай атакі ў такійскім метро. Аб гэтым паведамілі ІТАР—ТАСС цесна звязаныя з паліцэйскім расследаваннем японскія журналісцкія крыніцы.

### Пакаранне старастаў...

**ПЕКІН.** Чацвёра вясковых старастаў з правінцыі Хэнань пакараны па прыгавору суда за забойства вяскоўца, які спрабаваў выкрыць мясцовую ўладу ў злоўжываннях. Па ўказцы павятовага начальства нягоднікі падпільнавалі праўдашукальніка на пустэльнай дарозе і задушылі яго.

### Амерыканцы дапамагаюць японцам

**ТОКІО.** Чацвёра амерыканскіх спецыялістаў па атрутных газах прыбылі ў Токіо для аказання дапамогі японскім урачам у лячэнні тых, хто пацярпеў ад хімічнай атакі ў такійскім метро 20 сакавіка. Больш як пяць тысяч чалавек сталі ахвярай прымянення газу зарын у сталічнай падземцы, дзесяць з іх памерлі.

# Хочаце стаць багатым? Няма нічога прасцей!

***Для гэтага не трэба шукаць Краіну Дурняў ды Поле цудаў, на якім растуць залатыя манеты. Калі і знойдзеце, вас усё роўна абрабуюць Ліса Аліса і Кот Базіліо. Ці не лепш узяць прыклад з тых, хто ўмее рабіць грошы? Багацце герояў гэтага артыкула перавышае фінансавую моц асобных незалежных дзяржаў. Прычым яны не атрымалі грошы ў спадчыну і не адшукалі на востраве скарбаў, а зарабілі. Вопыт каштоўны паўтарэннем. Паспрабуйце, можа, і вам пашанцуе.***

## Камп'ютэрны "кароль"

Самы малады мільярдэр свету Біл Гейтс недалёка адышоў ад камсамольскага ўзросту. Але рэкетам не займаўся. Першыя крокі да сваіх мільярдаў ён зрабіў ва ўзросце... піянерскім. Сёння трыццацівасьмігадовы Біл Гейтс займае другое месца ў спісе самых багатых людзей ЗША. Яго асабістае багацце ацэньваецца ў 6,5 мільярда долараў.

Біл — камп'ютэрны праграміст. Сваю першую праграму ён распрацаваў у 13 гадоў. У 17 гадоў стварыў для фірмы IBM, што выпрабляе камп'ютэры, праграму, якая да сённяшняга дня прыносіць яму 20 мільёнаў прыбытку штогод. У 19 гадоў арганізаваў фірму "Майкрасофт", у якой цяпер працуе 15 тысяч праграмістаў. Сусветна вядомыя сістэмы MS-DOS і WINDOWS выкарыстоўваюцца ў кожных дзевяці з дзесяці працуючых цяпер камп'ютэраў. У маім, дарэчы, таксама.

Аб працаздольнасці Біла Гейтса ходзяць легенды. Кажуць, што ён можа беспярэпынна працаваць 40 гадзін. Яго звычайны рабочы дзень пачынаецца ў восем раніцы і заканчваецца ў дзве гадзіны ночы. Такой жа поўнай самааддачы ён патрабуе ад сваіх супрацоўнікаў. Сярод іх, між іншым, яшчэ некалькі гадоў назад не было жанчын. Біл быў невысокай думкі аб іх разумовых здольнасцях. Пасля таго, як яго пакрытыкавалі за дыскрымінацыю, Біл прыняў некалькі прадстаўніц цудоўнага полу ў сваю фірму. Сярод іх аказалася дзяўчына з Даласа Мелінда Фрэнч, якая ў фірме "Майкрасофт" хутка дарасла да галоўнага спецыяліста па маркетынгу. Біл — недавучка, пакінуў універсітэт пасля трэцяга семестра, а Мелінда закончыла факультэт электронікі і кіравання. Аднойчы Біл прапанаваў Меліндзе згуляць з ім у камп'ютэрную гульню вышэйшай ступені складанасці, якую сам прыдумаў. І Мелінда яго абставіла па ўсіх правілах... Пасля гэтага на экране камп'ютэра дзяўчыны з'явіўся тэкст: "Ці не выйдзеш ты за мяне замуж?". На маніторы Біла Гейтса загарэлася лаканічнае "Так!" Біл канстатаваў: "На свеце, аказваецца, ёсць разумныя жанчыны".

Вяселле адбылося пад Новы год на адным з Гавайскіх астравоў. Паколькі Біл не любіць шумных кампаній, ён "адкупіў" востраў з усімі яго гасцініцамі і верталётамі, каб туды не дабраліся высокапастаўленыя асобы, журналісты і падхалімы. Сяброў у Біла няма. Ён высакамерны, задзірлівы, разважлівы, бязмежна лагічны і не прызнае ніякіх чалавечых слабасцей.

Для жонкі ён пабудаваў дом каля Сіэтла за 45 мільёнаў долараў.

Біл Гейтс мае намер першым увайсці ў сістэму інфарматыкі XXI стагоддзя. Цяпер ён працуе над стварэннем універсальнай праграмы, дзякуючы якой можна будзе, не выходзячы з дому, на сваім персанальным камп'ютэры выбраць звесткі аб новых фільмах, спектаклях, асартыменце тавараў у буйнейшых магазінах, на аўкцыёнах і распрадажах і заказаць неабходнае па камп'ютэрнай сувязі з дастаўкай на дом.

## Чалавек, які гуляе па-банку

Яго імя добра вядома ў Беларусі, бо ні адзін чалавек столькі асабістых сродкаў у гэту краіну яшчэ не ўкладаў. Ён падтрымлівае беларускую навуку, дапамагае ахвярам Чарнобыля, маладым вучоным, эканамістам і, як сам гаворыць пра сябе, ператвараецца з фінансіста ў філосафа. Але яму не ўсе вераць. Нават больш таго: чалавека, перад якім насцеж расчыняюцца дзверы каралеўскіх палацаў і ўрадавых рэзідэнцый, былы беларускі прэм'ер і няўдалы кандыдат у прэзідэнты Кебіч не пажадаў прыняць, прадэманстраваўшы ўсяму свету чыноўніцкую ўпартасць. Але ад гэтага пацярпела рэпутацыя не Джорджа Сораса, а рэспублікі.

Што вядома пра Сораса? У яго няма ні асабістага самалёта, ні яхты. Ён не ахвочы да выпівак, не курыць, не франціць у модным адзенні. Звычайны чалавек. Толькі вось у спісе багатых ён стаіць на адным з першых месцаў, паколькі кіруе капіталам у восем мільярдаў долараў, з якіх асабіста яму належыць трэць.

Джордж Сорас — венгерскі яўрэй, які ў семнаццацігадовым узросце паехаў з Венгрыі ў Англію, дзе закончыў Лонданскую эканамічную школу з вельмі пасрэднымі адзнакамі. Але веды, якія там атрымаў, змог злучыць са сваёй інтуіцыяй. Сорас аказаўся геніем ва ўменні прадказваць рынкавыя тэндэнцыі.

"Зорны час" Сораса прабіў 15 верасня 1992 года, калі ён распарадзіўся прадаць англійскія фунты на суму 10 мільярдаў долараў, паколькі быў упэўнены, што на наступную раніцу фунт будзе дэвальваваны. Так і здарылася. Сорас паклаў на свой рахунак мільярд (!) прыбытку і нават не адзначыў гэты факт бакалам шампанскага. Затое ён атрымаў тытул чалавека, які перамог фунт. З таго часу фінансавы свет сочыць за кожным крокам Сораса. У мінулым годзе ён сказаў, што курс нямецкай маркі празмерна завышаны і вось-вось пачне зніжацца. Так і адбылося. Усе кінуліся ў фінансавыя гульні, але Сорас спачатку згуляў сам, а потым ужо выказаўся.

Калі ён купіў акцыі залатога рудніка, цана на золата неадкладна падскочыла. Ён стаў купляць лонданскую нерухомасць, і яе кошт таксама пачаў павольна падымацца...

Ён ведае (адчувае), дзе і калі адбудзецца біржавы крах або фінансавы бум. Ён ведае ўсё. Праўда, аднойчы за дваццаць гадоў Сорас памыліўся. І гэта памылка каштавала яму страты за адзін дзень 650 мільёнаў. Дакладна вызначыўшы біржавы крах, ён памыліўся месцам. Забраўшы свае грошы з Токіо, ён змясціў іх у Нью-Йорку і... прагарэў. Адбылося гэта ў 1987 годзе. Валодаючы тонкім гумарам, Джордж Сорас адзначыў гэту падзею званым абедам для вядомых фінансістаў.

Злосныя языкі сцвярджаюць, што Сорас ніякі не геній, а проста мае доступ да сакрэтнай інфармацыі, што дазваляе яму гуляць па-банку. Але даказаць гэта немагчыма. Ва ўсякім разе падобнага на яго фінансавага ігрока ніколі не было. Ён адзіны, як Пеле ў футболе, як Біл Гейтс у праграміраванні. Геніяў на канвееры не выпрабляюць. Яны заўсёды ў адзіным экземпляры. Між іншым, стаць мільярдэрам нічога не каштуе: трэба нарадзіцца геніем. Паспрабуйце.

**Уладзімір ЛЕВІН, уласны карэспандэнт "Народнай газеты" ў ЗША.**

ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ

# "...А ведь многие из них считались уже "безнадежными"!"

Статья под таким названием о народном целителе И.А.Филькевиче, опубликованная в "Народной газете" № 15 за 21—23 января 1995 года и № 23 за 2 февраля 1995 года, продолжает вызывать большой интерес у читателей.

В помощь тем, кто приобрел книгу "Твое здоровье", публикуем таблицу наиболее эффективных биоэнергетических упражнений для самостоятельного лечения.

| Болезни | Номера упражнений из книги "Твое здоровье" |
|---|---|
| Инсульт | 10, 3, 5, 6, 13, 14, 15, 16, 17, 4, 1 |
| Остеохондроз | 10, 5, 6, 15, 14, 17, 3 |
| Аллергия | 5, 6, 10, 21, 22, 9 (для печени, почек, селезенки), 3, 14 |
| Нервные стрессы | 21, 22, 23, 18, 11, 12, 14, 15, 4, 2, 3, 13, 17, 1 |
| Нервные депрессии | 24, 13, 14, 15, 16, 17, 21, 22, 3, 11, 18, 19, 7, 8, 1 |
| Болезни сердца | 3, 4, 9 (для сердца и печени), 11, 12, 13, 14, 17, 19, 24 |
| Болезни почек | 15, 14, 9 (для почек), 17, 21, 4, 2, 8 |
| Болезни желудка и двенадцатиперстной кишки | 3, 4, 14, 15, 19, 21, 22, 9 (для желудка) |
| Болезни легких | 14, 16, 12, 4, 9 (для легких), 22, 7, 1, 19, 20 |
| Мигрень и головные боли | 21, 22, 16, 17, 15, 7 |
| Бессоница | 2, 3, 4, 22, 15, 18 |
| Нарушение кровообращения и головокружение | 22, 11, 15, 4, 7, 16 |
| Нормализация артериального давления | 12, 4, 9 (для почек, сердца, печени), 13, 10, 11, 22 |
| Восстановление и укрепление иммунной системы | 2, 3, 10, 11, 13, 17, 19, 20, 24, 1, 8, 7 |
| Быстрое восстановление организма после операции | 3, 5, 6, 9, 14, 15, 16, 17, 13 |
| Онкология (для задержки развития раковых клеток) | 1, 3, 15, 16, 19, 20, 17, 21, 22, 24 |
| Худощавость или полнота | 2, 14, 5, 6, 3, 19, 15, 16, 7, 8. |
| Снижение негативного воздействия экологических катаклизмов | 10, 3, 1, 14, 15, 16, 17 |
| Приостановление резкого падения зрения | 9 (для головы), 13, 22, 7, 8, 4 |
| Мобилизация внутренних сил организма | 24, 13, 14, 15, 16, 17, 10, 1 |

Стоимость книги "Твое здоровье" — 40 тыс. руб. Приобрести вы ее можете, направив почтовый перевод до 25 мая 1995 г. **по адресу: 220141, Минск-141, а/я 267 или 220114, Минск-114, а/я 183, Филькевичу Игорю Александровичу.** Убедительная просьба: внимательно и печатными буквами написать свой обратный адрес в отрывном талоне перевода.

# Смяяцца не грэх



Мінскі тэатр гумару і сатыры "Хрыстафор", якім кіруе Яўген Крыжаноўскі, любяць і ведаюць гледачы розных узростаў, роду занятаў. Творчасць тэатра блізкая і зразумелая сучаснікам. Самыя складаныя праблемы нашага жыцця ўспрымаюцца лягчэй праз смех і жарты. Можа, таму ў зале Палаца культуры прафсаюзаў, дзе ладзіць спектаклі "Хрыстафор", заўсёды мнагалюдна.

❑ *Сцэна са спектакля "Ад Чыжоўкі да Камароўкі".*

**Марыя ЖЫЛІНСКАЯ, фота аўтара**

# Як я з'ездзіў з Балтыі ў... Балтыю

Цягнік — не самы папулярны від транспарту для такога падарожжа. З Рыгі ў Вільнюс звычайна ездзяць на аўтобусах з аховай. Едуць у асноўным на вядомы базар Гарунай — горад у горадзе, дзе рай для аматараў танных набыткаў і... кішэннікаў.

Аўтобусныя рэйсы арганізуюць шматлікія "турыстычныя" фірмы Рыгі. Увечары выезд, раніцай — Гарунай, у другой палове дня — у зваротны шлях. Зручна і не страшна. Аднак выпадкі, калі навяўленыя "робін гуды" спыняюць на дарогах аўтобусы і збіраюць з запалоханых пасажыраў даніну, — не рэдкасць. Таму, вырашыўшы ехаць у Вільнюс, я выбраў цягнік, хоць гэта і даражэй — прыкладна ў 2,5 раза. У купэйным вагоне заняты толькі ніжнія паліцы, цёпла, праваднікі разносяць сокі і газеты — камфорт. Не паспеў заснуць — граніца. Хмурныя мытнікі ленавата корпаюцца ў сумках, пагранічнікі прыдзірліва вывучаюць надпіс "Грамадзянін Рэспублікі Беларусь". Такое пачуццё, што да гэтага часу яны і не падазравалі аб існаванні такой дзяржавы.

Праз паўгадзіны — граніца Літвы. Літоўцы выглядаюць больш ветлівымі, але, можа, мне так здаецца таму, што ў іх на кукардах да болю родная "Пагоня". Звычайныя фармальнасці — і зноў у дарогу. Пажылая літоўка — мая суседка па купэ — папярэдне высветліўшы, на якой мове я размаўляю, кажа: "Прыдумалі ж — граніца паміж Латвіяй і Літвой!" І я са здзіўленнем заўважаю, што існаванне граніцы паміж Літвой і Беларуссю або Літвой і Расіяй яе ніколькі не здзіўляе і не абурае, гэта ўспрымаецца як штосьці зразумелае.

Адразу пасля прыбыцця цягніка, аддаючы даніну традыцыі, — на Гарунай. Першае ўражанне: кашмар. Няўжо можна ўсё гэта абысці за адзін дзень ды яшчэ і выбраць што-небудзь? Гавораць па-руску, спрачаюцца за кожны долар. Пасля рыжскіх цэн Гарунай радуе. Усё каштуе прыблізна ў два разы танней — тое, за што ў Рызе аддасі 5 латаў (9,5 долара. — **І.В.**), тут можна купіць за 5 долараў. Аднак цэны на добрыя фірменныя рэчы і якасную касметыку практычна аднолькавыя. Тавар тут — польскі, турэцкі, кітайскі... Галоўнае — каб не абакралі кішэннікі, не падманулі прадаўцы і пашанцавала з надвор'ем. Каля гадзіны дня ўвесь гандаль згортваецца, і рынак становіцца пустым і палохаючым. А заўтра ўсё пачнецца зноўку.

Самы ажыўлены гандаль ідзе тут з 6 да 8 гадзін раніцы — калі робяцца аптовыя закупкі.

Гарунай — напэўна, галоўная славутасць Вільнюса. Калі ў Каўнас ездзяць у музей Чурлёніса, дык у Вільнюс — у асноўным на рынак. Хоць і тут ёсць на што паглядзець. Напрыклад, універсітэт. Яго дворыкі — маленькі цуд, пра іх можна пісаць вершы. Цішыня, спакой, адмысловая важнасць.

Лаўлю сябе на думцы аб тым, што Вільнюс здаецца мне родным, беларускім. На сценах дамоў — шматлікія памятныя дошкі, прысвечаныя знакамітым беларусам і напісаныя на беларускай мове. Гэтую думку пацвердзілі і супрацоўнікі пасольства Рэспублікі Беларусь, якія лічаць, што ў нас з літоўцамі падобны менталітэт. Вільнюс вельмі адрозніваецца ад Рыгі. Калі сталіца Латвіі бяжыць да Захаду подскакам, калі ў ёй поўна шыкоўных магазінаў, начных клубаў і ад зорак расійскай эстрады няма адбою, дык Вільнюс здаецца крыху задрамаўшым. А ў некаторых магазінах у нос б'е ўжо забыты пах махровай савецкай камісіёнкі. Ці мне проста не пашанцавала з магазінамі?

...На зваротным шляху ў вагоне ехала толькі пяць чалавек. Разгаварыўшыся са спадарожнікамі, даведваюся пра досыць аптымістычную навіну: усе яны марылі пра той час, калі зноў можна будзе ездзіць без віз. І кожная нацыя будзе жыць у сваёй краіне, гаварыць на сваёй мове і паважаць сваіх суседзяў.

Цягнік прыбыў у Рыгу ў 8.00 раніцы.

Я з'ездзіў з Балтыі ў Балтыю.

**Ігар ВІНЯНКОЎ, уласны карэспандэнт "Народнай газеты" па краінах Балтыі.**

# Хотите поехать в Германию?

**Тогда участвуйте в международном конкурсе, посвященном 125-летию Министерства иностранных дел ФРГ. Разыгрывается 10 путевок в Германию, 900 других призов.**

По случаю своего 125-летнего юбилея Министерство иностранных дел Федеративной Республики Германия объявляет конкурс на тему "Внешняя политика Германии". При правильном ответе на 10 вопросов конкурса Вы получаете шанс выиграть путешествие по Германии или один из 900 других призов. Участвовать в конкурсе может каждый, за исключением немецких граждан, а также сотрудников МИДа и дипломатических представительств Германии.

На следующих страницах вы найдете 10 вопросов с 4 вариантами ответов на каждый из них. Отметьте крестиком правильный, на ваш взгляд, ответ и пошлите ваши решения в посольство Федеративной Республики Германия в Минске: 220034, Минск, ул. Захарова, 26 или непосредственно в Министерство иностранных дел, реферат 012-9, Аденауэраллее, 99-103, 53113 Бонн, Германия (Auswartiges Amt, Referat 012-9, Adenauerallee 99-103, 53113 Bonn, Bundesrepublik Deutschland). Крайний срок приема ответов — 15 июня 1995 г. Претензии в судебном порядке исключаются.

Десять основных победителей конкурса получат возможность совершить десятидневное путешествие по Германии. Они будут извещены об этом не позднее конца июля 1995 года. Поездка состоится в период с конца сентября по начало октября 1995 г. и включает посещение Берлина, Бонна, Франкфурта, Мюнхена и Веймара. Участвующим в ней победителям конкурса будет заблаговременно передана подробная программа.

Среди других 900 призов: 100 наручных часов с логотипом МИДа, 500 аудиокассет или компакт-дисков: "Музыка мира" с записями музыкантов пяти континентов — вклад Министерства иностранных дел в празднование 50-летнего юбилея ООН, 300 видеофильмов о внешней политике Германии, компьютерные игры, иллюстрированные альбомы и т.п.

Вы сможете лучше ответить на вопросы конкурса, если внимательно прочитаете номера 1 и 2 журнала "Deutschland" за 1995 год.

Желаем вам успеха и добро пожаловать в Германию!

## Международный конкурс Министерства иностранных дел ФРГ, 1995

### 10 вопросов

**1**. Федеративная Республика Германия поддерживает дипломатические отношения со 185 государствами. Сколько своих представительств за рубежом (посольств, генеральных консульств, постоянных представительств при международных организациях и т.д.) имеет Федеративная Республика во всем мире?

а) 99
б) 110
в) 185
г) 230

**2**. Германия является членом многочисленных международных организаций. В какой из нижеперечисленных организаций Германия **не** представлена?

а) APEC
б) NATO
в) UNO (ООН)
г) OSZE (ОБСЕ)

**3**. В период 1995—1996 годов Германия будет иметь непостоянное членство в Совете Безопасности ООН. Какова процентная доля взноса Германии в фонд этой организации?

а) 0,7%
б) 1,2%
в) 5,0%
г) 8,9%

**4**. Процесс европейского объединения остается для Германии одним из основных внешнеполитических приоритетов. Какое из четырех государств не вступило в Европейский союз на 1 января 1995 г.?

а) Австрия
б) Финляндия
в) Швеция
г) Норвегия

**5**. Германия и Израиль отмечают в 1995 году юбилей установления дипломатических отношений. Сколько лет оба государства поддерживают между собой дипломатические отношения?

а) 5 лет
б) 10 лет
в) 30 лет
г) 90 лет

**6**. В год воссоединения Германии — 1990 — министр иностранных дел Федеративной Республики Германия подчеркнул в своем выступлении перед Генеральной Ассамблеей ООН принцип, определяющий внешнюю политику Федеративной Республики Германия. Как он звучит?

а) i do it my way
б) С немецкой земли никогда более не должна исходить война, с немецкой земли отныне может исходить только мир
в) За миротворчество без оружия
г) Buy Cerman

**7**. В 1975 году Германия присоединилась к Договору о нераспространении ядерного оружия; кроме того, в 1990 году Германия приняла на себя международное обязательство не производить, не приобретать, не складировать и не иметь ядерного биологического и химического оружия. Какое государство присоединилось к вышеупомянутому Договору 5 декабря 1994 года?

а) Украина
б) Япония
в) Мексика
г) Польша

**8**. Три из ниженазванных четырех видов изделий производятся в Германии. Что лишнее?

а) поезд на магнитной подушке "Трансрапид"
б) апельсины "Яффа"
в) косметика "Велла"
г) Мерседес-Бенц

**9**. Какой международный форум пройдет в Берлине с 28 марта по 7 апреля 1995 года?

а) Конференция по климату в рамках ООН (1-я Конференция государств—участников климатической рамочной конвенции)
б) Всемирный экономический форум на высшем уровне
в) Ежегодное совещание "Американской ассоциации учителей немецкого языка"
г) World Expo

**10**. Множество студентов изучают немецкий язык в институтах Гёте, школах и университетах всего мира. Оцените количество студентов, изучающих во всем мире немецкий язык как иностранный.

а) 500 000
б) 1 миллион
в) 19 миллионов
г) 50 миллионов

ВАМ ЗБІРАЮЦЦА ПАКАЗАЦЬ...

## Дзяржрэгістр: дазволены да паказу

У выніку разгляду экспертнай камісіяй пры Дзяржрэгістры кінавідэафільмаў і кінавідэапраграм Рэспублікі Беларусь прадстаўленых кінакарцін дзяржаўныя рэгістрацыйныя пасведчанні дадзены наступным з іх:

### Мастацкія фільмы:

1. **"Сцяна"** — меладрама з прыгодніцкім сюжэтам. Вытворчасць — Індыя. Рэжысёр — Я.Чопра. Права пракату на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь належыць МГП "Кінавідэапракат" тэрмінам да 2.09.99 г. Для рознай аўдыторыі.

2. **"Страсць у кайданах"** — прыгодніцкі фільм, дзеянне якога разгортваецца ў жаночай турме. Вытворчасць — ЗША. Аўтары сцэнарыя — В.Мангол, П.Нікалас, рэжысёр — П.Нікалас. Права пракату на тэрыторыі Гродзенскай вобласці належыць Гродзенскаму абласному ВА "Кінавідэапракат" тэрмінам да 12.09.97 г. Акрамя дзяцей да 16 гадоў.

3. **"Тайна гібелі фотамадэлі"** — дэтэктыў. Вытворчасць — ЗША. Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Д.Квін. Права пракату на тэрыторыі Гродзенскай вобласці належыць Гродзенскаму абласному ВА "Кінавідэапракат" тэрмінам да 1.10.96 г. Акрамя дзяцей да 16 гадоў.

### "Монстры"

Так назвалі сваю новую сумесную кінастужку кінамайстры Расіі і ЗША. Пастаноўку фільма па свайму сцэнарыю ажыццявіў рэжысёр Сяргей Кучкоў.

Дык вось, у раён бедства, пасля катастрофы на атамнай станцыі, у зону паражэння накіроўваецца навуковая экспедыцыя, у складзе якой фізікі, біёлагі, паталагаанатамы. Нястомны і бясстрашны фотажурналіст Марына збіраецца ў дарогу разам з вучонымі і прапануе калегу Барысу, з якім яе звязвала вялікае пачуццё, скласці ёй кампанію. Яму ж зусім не хочацца рызыкаваць жыццём і здароўем, але, баючыся праславіцца як баязлівец, ён згаджаецца.

Відовішча мёртвага горада прыводзіць у жах вучоных і журналістаў. Асабліва насцярожвае паведамленне суправаджаючага навуковую групу аб тым, што праз шчыліны, што ўтварыліся з-за паспешлівага, нядобрасумленнага будаўніцтва блока, у саркафаг і рэактар пранікаюць дзікія кошкі і пацукі. Пад уздзеяннем радыяцыі абпрамененыя жывёлы вырастаюць да гіганцкіх памераў і вельмі небяспечныя для людзей...

Галоўныя ролі выконваюць Барыс Шчарбакоў, Эла Сафары, Георгій Нікалаенка, Цімафей Сопалеў, Уладзімір Антонік.

### "Ка-ка-ду"

Гэту расійскую мастацкую кінастужку паставіў рэжысёр Сяргей Гурзо. Ён жа напісаў і сцэнарый фільма.

Галоўныя дзеючыя асобы карціны — буйныя мафіёзі, якія вядуць барацьбу за сферы ўплыву. Аўтары настойваюць, што яны здымалі не дэтэктыў, а псіхалагічную драму, у якой прасочваюцца ўзлёт і падзенне трыццацігадовага чалавека, які некалі падаваў вялікія надзеі ў эканамічных навуках, але не стаў ні вучоным, ні сумленным прыстойным прадпрымальнікам. Пагнаўшыся за багаццем і лжывым прэстыжам, ён загубіў сваю душу, стаў нелюдзем, монстрам.

### Завуць яго Саша

Можа, віной усяму вайна ў Афганістане, якую ён прайшоў салдатам, пабачыўшы нямала жудаснага, несправядлівага. З гэтай вайны ён вярнуўся інвалідам і цяпер прыкаваны да каляскі.

У галоўных ролях заняты Дзяніс Кміт, Валерый Носік, Станіслаў Гаварухін, Кацярына Васільева, Ніна Русланава, Кацярына Стрыжэнава.

### "Паліцэйская акадэмія: місія ў Маскве"

Вытворчасць ЗША. Сцэнарый напісаў Рэндолф Дэвіс і Мішэль С.Шадо, пастаноўку карціны ажыццявіў рэжысёр Элан Метэр.

"Паліцэйская акадэмія: місія ў Маскве" — самая апошняя з заваяваўшых шырокі поспех серый камедыйнага мастацкага фільма. Яна пераўзышла ўсе іншыя, сабраўшы больш як паўмільярда долараў па ўсяму свету і працягваючы рабіць зборы.

1994 год. Курсанты паліцэйскай акадэміі, самыя няўмелыя ў свеце паляўнічыя за злачынцамі, накіроўваюцца ў падарожжа па Расіі, каб знішчыць Канстанціна Каналью (Рон Перлмэн), "хроснага бацьку" рускай мафіі і пакласці канец яго царству тэрору. Але ў Каналы ёсць іншы план — падмануць увесь свет! Геніяльна выкарыстоўваючы папулярную відэагульню, Каналья атрымлівае магчымасць доступу да любога камп'ютэра на зямлі. Пранікнуўшы ў камп'ютэрную сістэму, ён можа абчысціць рахункі ў швейцарскім банку, украсці акцыі нью-йоркскай фондавай біржы, выкрасці ўсё, пачынаючы з сакрэтаў Пентагона і Крамля да рыбы з фултанскага рынку.

Ведай нашых!

# Чаму выдатныя спецыялісты Беларусі пакідаюць Радзіму і ствараюць багацце суседняй дзяржаве?

У маскоўскай мэрыі мне сказалі, што аўтобусныя, трамвайна-тралейбусныя маршруты, жыллёвае і дарожнае будаўніцтва трымаецца сёння на плячах беларускіх, украінскіх і малдаўскіх хлопцаў. Гэта яны — тысячы наймітаў з правамі пералётных птушак — паставілі гарадскі транспарт на колы, і сёння ён больш надзейны, чым электрычкі і метро.

Аплата працы па-маскоўску дае магчымасць "летунам" за тую самую норму выпрацоўкі (сто семдзесят гадзін за месяц) атрымліваць столькі, колькі яны не змаглі б зарабіць у Беларусі нават за цэлы год. І калі гаварыць шчыра, то прыязджаюць сюды найбольш працавітыя, найбольш не патрабавальныя да бытавых умоў маладыя хлопцы з Гомеля, Віцебска і іншых мясцін.

З многімі беларусамі я сустракаўся, гутарыў, разам з імі шукаў адказы на сённяшнія складаныя пытанні, што ставіць жыццё...

Напрыклад, 14-ы аўтобусны парк арандуе для прыезджых 75 месцаў у гасцініцы "Мажайская", што на Мажайскай шашы, дзе я і пазнаёміўся з Міхасём Новікавым і Уладзімірам Разанавым.

Міхась да Масквы працаваў у адной гомельскай аўтагаспадарцы, але аднойчы махнуў рукой на бясконцы вытворчы бардак, мізэрныя заробкі. А меў ён, між іншым, высокую кваліфікацыю вадзіцеля і ладны стаж.

А што было губляць пралетарыю? Можа, пашанцуе...

Міхасю сапраўды пашанцавала. Аказалася, што на той час (год назад) у гасцініцы "Мажайская" былі вольныя месцы: невялічкі пакойчык на дваіх. І нядорага па сённяшніх цэнах на маскоўскае жытло: 120 тысяч рублёў за месяц. Гэта дзесятая частка кошту нумара, астатняе даплачвала прадпрыемства. Хаця і далёка да месца працы, затое цёпла, утульна.

Пашанцавала? Не, новыя гаспадары хутка пераканаліся, што беларускі "лятун" мае спрытныя рукі, добразычлівы характар. Хіба дурань толькі не мог убачыць, што такім мужыкам цаны няма. Ды толькі не на радзіме...

З цікавасцю слухаю, як Міхась апавядае пра сваю сям'ю, пра свае радасці і засмучэнні. Пытаюся:

— Стамляешся?

— Мая маскоўская жытка — праца, кароткі сон і... зноў праца. Выхадных амаль не бывае. А калі і здараюцца, дык часцей за ўсё адсыпаюся. Вадзіцелям не трэба тлумачыць, што такое за месяц дзвесце гадзін за рулём...

— А як справы дома? Люба не кліча дамоў у Гомель?

Смяецца ў адказ:

— Яшчэ як кліча! Кожны тыдзень тэлефаную... Хвілін пяць пагаворыш, дык нібы дзень дома правеў. Сумую па малодшай. А сын — амаль мужчына, у пяты ўжо ходзіць...

Міхась дастае з кішэні пінжака фотакартку Жэні, з якой сын усміхаецца бацьку. І нібыта цяплей робіцца ў казённым пакойчыку. Тут усё ёсць: канапа, халадзільнік, тэлевізар, стол з розным посудам. Не хапае душы... А душа, канешне ж, там, у Гомелі.

— Вучыцца Жэня нармальна. Вось купіў яму канькі з чаравікамі. 200 тысяч аддаў... Купіў, а сам перажываю: увесь лёд растаў...

— Кінь ты, зіма ж яшчэ не скончылася, — супакойваю Міхася.

Ад яго, ад Міхася, даведаўся, што Масква і сёння не верыць слязам і ўвогуле тут з "малодшым братам" не надта цырымоняцца. Аднойчы ў гасцініцу да ўкраінскіх мужыкоў прыехалі пагасціць на пару дзён жонкі. Дык вось... Наляцела цэлая зграя міліцыянераў, павялі жанок на вуліцу, сілай упіхнулі ў машыну, павезлі ў аддзяленне. Штраф далі за тое, што не прайшлі рэгістрацыю па лужкоўскаму загаду.

А штрафы? У аўтапарку агульны "букет" штрафных санкцый дасягае ў месяц да шасцісот тысяч рублёў. Спаўна спаганяюць і за самастойны прастой, і за ўхіленне ад медыцынскага агляду перад пачаткам змены, і за правоз пабочных людзей у кабіне вадзіцеля...

— Цярпім?

— Мяне яшчэ не штрафавалі. У снежні атрымаў мільён трыста тысяч. Гэта больш за тры мільёны, калі ў "зайчыках". Мае гомельскія сябрукі мне не вераць. Кажуць, выхваляюся. Зайдзіце ў хату, пабачыце — гавару ім. Год споўніцца, як я тут, а маю двухпакаёўку ў Гомелі не пазнаць: набылі сучасную дарагую мэблю, каляровы тэлевізар, жонка і дзеці адзетыя, абутыя, накормленыя. Сёе-тое на запас маю...

— Няма больш гомельскага бедалагі Новікава?

Смяёмся.

— Можа, і не зусім бедалага, але амаль усё сваё жыццё, маючы высокую кваліфікацыю, над кожнай капейкай калаціўся. А гэта, паверце, так абражае чалавека! Няўжо чыноўнікі ў Беларусі не разумеюць, што мы сваімі рукамі здольныя стварыць сабе прыстойнае жыццё. Саступіце з дарогі са сваімі інструкцыямі, якія перашкаджаюць зарабляць добрыя грошы.

Думаецца, гэта вельмі красамоўны факт. Так званы брацкі гандаль з Расіяй прыводзіць да таго, што не толькі расце доўг усходняй саседцы, але і кваліфікаваныя кадры за капейкі ствараюць багацце чужой дзяржаве. Значыць, камусьці гэта трэба?

**Леанід ФАДЗЕЕЎ, уласны карэспандэнт "Народнай газеты" ў Маскве.**

